# Тыднёвік Магілёўскі




№ 2 (43) 14 студзеня 1999 г. Кошт свабодны


## Такі балючы й кароткі шлях ад дэмакратыі да дыктатуры...



• *Фота А.Ліціна.*

ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЭНТА — 16 ТРАЎНЯ ?

## Жэст адчаю й адвагі

Рашэньне аб выбарах прэзыдэнта прыняў днямі ў Менску Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Нагадаем чытачам, што пасьля сумнавядомага рэфэрэндума (1996 г.), які даў падставу Лукашэнку зьмяніць Канстытуцыю, крыху больш за 40 дэпутатаў апошняга ВС захавалі вернасьць легітымнай Канстытуцыі. Акрамя Расеі ніхто з цывілізаваных краінаў не адвярнуўся ад «былога» вышэйшага органа Беларусі: дэлегацыі ВС прымаюць удзел у міжнародных мерапрыемствах, ён прадстаўлены ў Эўрапейскім Зьвязе, АБСЭ, іншых парляманцкіх арганізацыях Эўропы й сьвету.

На падставе сваёй легітымнасьці і ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй 1994 г. дэпутаты прынялі рашэньне аб правядзеньні ў гэтым годзе прэзыдэнцкіх выбараў, паколькі тэрмін паўнамоцтваў цяперашняга прэзыдэнта сканчаецца, па той жа Канстытуцыі, у траўні. Такім чынам, цалкам верагодна, пасьля сканчэньня гэтага тэрміну Лукашэнку перастануць на Захадзе лічыць правамоцным кіраўніком дзяржавы.

Напярэдадні паседжаньня ВС пракуратура Беларусі папярэдзіла дэпутатаў аб адказнасьці за такое рашэньне. Як бачым, яны не спалохаліся. Прызначана таксама ў адпаведнасьці з законам Цэнтральная выбарчая камісія на чале зь Віктарам Ганчаром, якога прэзыдэнт у парушэньне заканадаўства зьняў з гэтай пасады напярэдадні ўсё таго-ж рэфэрэндуму.

***Уласная інфармацыя***



• *Фота IREX/ProMedia.*

## ВЫБАРЧАЯ ЎВЭРЦЮРА

*ТМ правёў апытаньне лідэраў палітычных партыяў з мэтаю высьветліць іх стаўленьне да аб'яўленых уладамі выбараў у мясцовыя саветы, што прызначаныя на красавік. Мы атрымалі наступныя адказы, якія падаем у гэтай рубрыцы.*

**Анатоль ФЁДАРАЎ, старшыня абласной і гарадзкой арганізацыі БНФ:**

– Ні пра якія выбары на падставе лукашэнкаўскай пасьлярэфэрэндумнай «канстытуцыі» ня можа быць і гаворкі. Такая пазыцыя Фронтам была заяўлена даўно: дыктатура й выбары несумяшчальныя. Пакуль у краіне ёсьць палітзьняволеныя, пакуль апазыцыя ня мае магчымасьці сказаць сваё слова ў электронных СМІ, пакуль не адноўленая ў сваім законным складзе Рэспубліканская выбарчая камісія – любыя выбары ня больш чым фарс, які мае на мэце падмануць свой народ і міжнародную супольнасьць. Упэўнены, што нават далёкіх ад палітыцы людзей мусіць насьцярожыць і апошняя прэзыдэнцкая папраўка ў свой жа закон аб выбарах, якая забараняе ўдзельнічаць у якасьці кандыдатаў тым, хто мае адміністрацыйныя пакараньні. Хто гэтыя людзі? Апазыцыянэры, праваабаронцы, прафсаюзныя пікетоўшчыкі й страйкоўцы. Стаўленьне-ж да іх такое, нібыта гаворка ідзе аб крымінальных злачынцах. На недасьведчанасьць людзей гэта і разьлічана. Думаю, аднак, што ніводзін паважаючы сябе грамадзянін не дазволіць прыніжаць сябе такім чынам, і не дапусьціць, каб ягоныя законныя выбарчыя і наогул грамадзянскія правы былі выкарыстаныя непрыкрыта цынічна... У Фронта ёсьць праца акрамя падрыхтоўкі да так званых выбараў. Працягваем зьбіраць подпісы за адстаўку прэзыдэнта. Працягваем гуртаваць вызвольны Рух. Працягваем кампанію за ўступленьне ў грамадзянства Беларускае Народнае Рэспублікі. Працягваем выдаваць лякальную дэмакратычную прэсу. У свабодныя-ж выбары ўключымся, – і забясьпечым іх – пасьля народнай перамогі над дыктатурай.

## Няхай будзе на карысьць

У Менску адбыўся ўстаноўчы сход па ўтварэньні Асацыяцыі недзяржаўнай беларускай мясцовай прэсы. Верагодна, што цягам часу назва новай грамадзка-прафэсійнай арганізацыі лякалізуецца і ўдакладніцца. Пакуль жа яна называецца так, каб было зразумела, што і хто маецца на ўвазе. Як вядома, ужо ёсьць дзьве журналісцкія асацыяцыі – БАЖ і Асацыяцыя выдаўцоў і рэдактараў недзяржаўных выданьняў. Зараз вырашылі аб'яднацца выдаўцы і рэдактары менавіта лякальнай незарэгістраванай беларускай прэсы. Сапраўды, гэта немалы сэктар на прасторы незалежнага друку, які пераўжывае яшчэ большыя складанасьці, чым «вялікая прэса».

Вітаючы саму ідэю новай асацыяцыі, ТМ утрымліваецца пакуль ад выказваньня ружовага аптымізму з нагоды гэтага намеру. Ад ідэі да яе ўвасабленьня шлях, як вядома, цярністы. У журналісцкім асяродзьдзі – тым больш. У нашай краіне – асабліва спецыфічна-цяжкі. Тым ня меньш ТЫДНЁВІК зыча ініцыятарам задумы, сярод іх ёсьць магілёўцы, посьпеху ў дасягненьні пачэснай мэты аб'яднаньня й дапамогі «малым выспачкам праўды».

***Уласная інфармацыя***

## Удакладненьне

У мінулым нумары ў вартыкуле «Вольнае слова вучыцца быць прафэсійным» паведамлялася пра 4 сэмінары для журналістаў. На самой справе, сэмінараў прайшло 2. А праект фундаваўся амэрыканскім фондам «Эўразія» са сродкаў, прадстаўленых Агенцтвам па міжнародным развіцьці Злучаных Штатаў Амэрыкі.

**Перапрашаем чытачоў.**

